*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2021, № 5(64). Травень

# Хлопчык са Слоніма шукаў сваякоў




Гэты здымак быў зроблены восенню 1945 года ў Баварыі ў лагеры для дзяцей з розных краін Еўропы, якія падчас Другой сусветнай вайны згубіліся ці засталіся без бацькоў. На ім трымае таблічку са сваім імем і прозвішчам Пётр Фабішэўскі. Ён нарадзіўся ў Слоніме 9 красавіка 1930 года ў сям'і Уладзіслава і Станіславы Фабішэўскіх. Якім чынам слонімец трапіў у Германію, невядома. Магчыма, быў вывезены нацыстамі.

Фота захавалася ў Мемарыяльным музеі Халакоста ў ЗША.* У каментары да яго паведамляецца, што падобныя здымкі публікаваліся ў нейкіх газетах для пошуку сваякоў. Паколькі надпіс на таблічцы выкананы па-польску, значыць сваіх сваякоў ён шукаў у Польшчы. І, відаць, знайшоў, паколькі туды выехаў у лістападзе 1946 года. Праўда, каментатары пішуць: "нарадзіўся… у горадзе Слонім, Польшча", "вярнуўся ў Польшчу". Таму нельга выключаць, што Пётр Фабішэўскі мог вярнуцца ў СССР.

Што здарылася з бацькамі слонімца? У спісах рэпрэсаваных савецкімі ўладамі іх знайсці не ўдалося. Ёсць іншая сям'я Фабішэўскіх, высланая ў 1940 годзе ў Расію з Басінаў (рэабілітаваная ў 1994-м). Адтуль жа была выслана Мечыслава Ласота.** У маці Пятра Фабішэўскага якраз было такое дзявочае прозвішча. Значыць, у яго сям'і маглі быць сувязі з Басінамі. Высланых Фабішэўскіх у дакументах называюць асаднікамі. Але яны не былі прысланыя з Польшчы, гаспадар быў ураджэнцам цяперашняга Дзятлаўскага раёна. У верасні 1941 года іх усіх, як польскіх грамадзян, вызвалілі.

Які быў лёс у Пятра Фабішэўскага, мы пакуль не ведаем.

●Сяргей Ёрш

**United States Holocaust Memorial Museum; Collections: 1993.23 // https://collections.ushmm.org/search/catalog/pa1035854*

***Ласота Мечислава Брониславовна // http://lists.memo.ru/index12.htm*

ХРОНІКА

# Мінкульт абмяркуе лёс палацава-паркавага ансамбля Пуслоўскіх у Альбярціне

14 красавіка Слонімшчыну наведаў міністр культуры Анатоль Маркевіч. У Слоніме ў драматычным тэатры ён сустрэўся з работнікамі культуры, гаворка ішла пра праблемы і перспектывы. Таксама Маркевіч пабываў у краязнаўчым музеі. У Жыровіцкім манастыры ён азнаёміўся з планам працягу рамонтна-рэстаўрацыйных працаў, найперш у Свята-Успенскім саборы (Мінкульт выдаткоўвае на гэта мільён рублёў). Было абмеркавана і будаўніцтва новай званіцы.

Канкрэтныя рашэнні ў канцы траўня на выязным пасяджэнні ў Жыровічах прыме рэспубліканская навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Мінкульце.

Як паведамляе Slonim LIVE, старшыня райвыканкама Генадзь Хоміч звярнуўся з просьбай да Анатоля Маркевіча аб выдзяленні сродкаў на рэканструкцыю палацава-паркавага ансамбля Пуслоўскіх у Альбярціне. Міністр паабяцаў, што пытанне разгледзяць.

●Генадзь Гурскі

*Фота тэлеграм-канала minkultrb і slonves.by*











З АРХІВАЎ

# Шпіёнская справа, 1922 год

22 сакавіка 1922 года камісар Садзевіч з паліцыі Навагрудскай акругі пісаў кіраўніцтву ў Варшаве пра вязня турмы ў Слоніме.* Гэта быў *"нейкі Айзенштадт"*, затрыманы за крадзеж. Але паліцыі стала вядома, што ён з'яўляецца "бальшавіцкім шпіёнам" — нібыта рабіў здымкі прадстаўнікоў польскай улады і розных "тэхнічных працаў".

З дапамогай Айзенштадта паліцыя спрабавала раскрыць усю шпіёнскую сетку, якой кіраваў нейкі Гольдман. У яго было выдатнае прыкрыццё: падчас польскай-савецкай вайны ён перадаў свой аўтамабіль у карыстанне *"начальніку польскай дзяржавы"* Язэпу Пілсудскаму. Сувязь з савецкім бокам падтрымлівалася праз ураджэнца Слоніма Барэцкага, які служыў у *"Чэка"* ў савецкай Беларусі, і меў псеўданімы Бібер Арон і Эберлінг Густаў. У нашым горадзе на Замкавай, 25 у яго жыў брат. Было падазрэнне, што там маглі сустракацца шпіёны. Яшчэ адным месцам канспірацыйных сустрэч называецца гатэль у Баранавічах. Сувязі сеткі нібыта сягалі аж да Варшавы…

З дакумента вынікае, што ў Слоніме была арганізавана сочка за Замкавай, 25, а таксама *"спраўджвалася ідэнтычнасць Айзенштадта"*.

Цяжка сказаць, наколькі гэта была праўдзівая інфармацыя. У той час хапала прайдзісветаў, якія, трапіўшы ў рукі паліцыі, маглі падобнае прыдумаць. Але паколькі дакумент быў дасланы ў Варшаву, значыць хаця б мінімальная праверка праводзілася. Пакуль невядома, чым гэтая гісторыя скончылася.

●Сяргей Ёрш



KOMENDA POLICJI PAŃSTW.
Okręgu Nowogrodzkiego
Nr.1891/II/Cf.

Nowogródek, dnia 22 marca 1922 r.

Odpis.

[illegible] szpiegowskie
C.2.100.-

Do
Centrali Sign.54f.
w Warszawie.

Ekspozytura tut. otrzymała ---
informacje, według których w Więzieniu Słonimskim zosta[illegible]
osadzony za kradzież niejaki AJZENSZTADT.




*У 1930-м "нейкага Айзенштадта" затрымалі ў Вільні*




*У альбоме фотаздымкаў падазраваных у камуністычнай ці шпіёнскай дзейнасці ёсць Мендэль Гольдман*

**Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Nowogródku // Archiwum Akt Nowych (Варшава).*

# Крымінал на Слонімшчыне 90 гадоў таму

У гэтым нарысе сабраныя асноўныя крымінальныя здарэнні на Слонімшчыне ў 1931 годзе. Пра іх пісалі газеты “Навагрудскае жыццё” (Życie Nowogródzkie) і “Навагрудскі кур’ер” (Kurjer Nowogródzki). Працы ў польскай паліцыі хапала, бо акрамя мясцовых злодзеяў дзейнічалі гастралёры. Таму пэўнае зацішша пасля ліквідацыі чарговай банды неўзабаве спынялася, бо з’яўлялася новая.

Раней у “СК” ужо з’яўляліся падобныя нарысы, прысвечаныя крыміналу ў Слоніме і павеце ў 1927-1928 гадах.[1]



### Крадзяжы

У студзені паліцыя рапартала пра частыя выпадкі крадзяжоў у Слоніме за невялікі перыяд. І колькасць іх не змяншалася. Было падазрэнне, што існавала *“арганізаваная шайка”*. Аднак у пачатку лютага колькасць крадзяжоў у Слоніме знізілася. “Радыкальныя” захады паліцыі далі вынік. Некалькіх злодзеяў удалося затрымаць, скрадзеныя рэчы вярнулі.

З 1930 года на чыгунцы ў Слоніме дзейнічала банда злодзеяў. У пачатку 1931-га стала вядома, што яны сарвалі пломбу з аднаго з вагонаў і скралі гарэлку. А пасля нахабна вывезлі 1000 кг цукру. Страты ад дзейнасці банды складалі тысячы злотых.

7 сакавіка слонімская паліцыя пад Пружанамі затрымала небяспечнага цыгана-канакрада Юзафа Малевіча, якога шукалі тры гады. Хаваўся ён пад іншым прозвішчам — Стэфана Брылевіча. У 1928-м Малевіча збіраліся даставіць у суд у Дзярэчыне, але ў Зэльве ён збег. У Бярозе-Картузскай уцякач даведаўся, што нейкі мясцовы жыхар Стэфан Брылевіч знаходзіцца ў СССР, і вырашыў легалізавацца пад яго прозвішчам. У ксяндза ён здолеў атрымаць метрыку аб нараджэнні.

У слонімскай паліцыі быў функцыянер, які асабіста ведаў Юзафа Малевіча, што і дапамагло яго схапіць. Паліцыя спадзявалася, што ўдасца раскрыць шматлікія крадзяжы коней на тэрыторыі Слонімскага павета. І не памылілася. Арыштаваны з часам выдаў іншых цыганоў. Іх знайшлі і арыштавалі. Скрадзеных коней вярнулі гаспадарам.

4 лістапада на чыгуначным вакзале ў Слоніме ў *“кабіне тэлефанічнай”* скралі тэлефонны апарат. Былі скрадзены і грошы, якімі аплачваліся тэлефанаванні (дакладная сума невядомая).

У снежні невядомы скраў грошы з канцылярыі дзяржаўнага шпіталя ў Слоніме. Здарылася гэта ў будні дзень у працоўны час. Адміністрацыйны работнік адлучыўся і не замкнуў шуфляду, у якой было каля 1000 злотых.

У пачатку снежня злодзей у слонімскім магістраце скраў з кабінета віцэ-бурмістра Мойшы Заблоцкага футра. Той якраз пайшоў у кабінет бурмістра. А калі вярнуўся, заўважыў знікненне футра ды звярнуўся ў паліцыю.

**Na stacji kolejowej w Słonimie grasuje zorganizowana banda złodzieji**

SŁONIM, (wł. kor.). Od dłuższego czasu dają się notować coraz częściej powtarzające się kradzieże z wagonów kolejowych w Słonimie. Ostatnio in- ... gonu, stojącego w pobliżu budki zwrotniczego przeszło 1000 klg. cukru.

Znamiennym objawem w tej całej sprawie jest fakt, że drzwi

**Zuchwałe włamania w Słonimie**

**GIMNAZJUM I SEMINARJUM OKRADZIONE**

SŁONIM, (tel. wł.). Wczoraj w nocy dokonano niezwykle śmiałego włamania do dwóch jednocześnie zakładów naukowych.

Nieznani narazie sprawcy przy pomocy podrobionych kluczy wtargnęli do gimnazjum im. Tadeusza Kościuszki i Seminarium Nauczycielskiego męskiego gdzie po rozbiciu biórek w gabinetach dyrektorów i kancelarjach zrabowali znajdującą się tam gotówkę.

Jak utrzymują poszkodowani, łupem włamywaczy padło przeszło tysiąc złotych.

Rabusie obliczali, że z racji wypłaty poborów Gimnazjum i Seminarjum przechowują większe sumy pieniężne. Policja zatrzymała kilku podejrzanych.

У тыя ж дні злодзеі амаль адначасова завіталі ў гімназію імя Касцюшкі і ў мужчынскую настаўніцкую семінарыю. Яны падабралі ключы і трапілі ў будынкі, у кабінетах дырэктараў і ў канцылярыях забралі знойдзеныя грошы — больш за тысячу злотых. Паліцыя па гарачых слядах затрымала некалькі падазраваных.

У канцы года ў Слоніме зноў павялічылася колькасць крадзяжоў. Паліцыя падазравала, што дзейнічае арганізаваная група. Яе ўдзельнікаў *"без сталага месца жыхарства"* ўдалося затрымаць — Яна Баркоўскага, Рыгора Кірыла (Курылу?), Андрэя Жыткевіча і Уладзіслава Русака. Усе яны раней ужо мелі праблемы з законам, іх даныя былі ў паліцэйскай картатэцы. Злодзеі расказалі на допытах, што скрадзенае збывалі ўладальніку крамы па вуліцы 3 Мая, 36 (цяпер — Чырвонаармейская) Гіршу Пэшкіну. Паліцыя з'явілася да яго зператрусам і знайшла ў краме шэраг рэчаў, якія былі ў пераліку скрадзенага. Пэшкіна арыштавалі.

## Небяспечная баранавіцкая шаша

У кастрычніку на 16-м кіламетры баранавіцкай шашы двое невядомых затрымалі падляснічага дзяржаўных лясоў Станіслава Багдановіча, які на ровары вяртаўся са Слоніма ў вёску Добры Бор, дзе жыў. Здарэнне адбылося ў той момант, калі Багдановіч з'ехаў з шашы на лясную дарогу. Зламыснікі забралі ровар, адзенне і шапку дабраборца, завязалі яму рот. Магчыма, хацелі прывязаць Станіслава Багдановіча да дрэва, але ён вырваўся і ўцёк — у ботах, але без кашулі.

Паліцыя прыбыла на месца здарэння і знайшла там і ровар Багдановіча, і яго адзенне, і нейкія дакументы дзяржаўныя — нападнікі нічога не ўзялі. Паколькі было цёмна, пацярпелы не змог разгледзець твары мужчын, таму іх пошук істотна ўскладняўся. У прэсе здарэнне называлі *"вельмі загадкавым"*. У Слоніме былі распаўсюджаны версіі, што Багдановіч насамрэч з нейкай прычыны прыдумаў напад.

У пачатку лістапада на баранавіцкай шашы ў 21 км ад Слоніма двое невядомых спынілі дзеяча Польскай сацыялістычнай партыі, кандыдата ў Сейм (на чым ён ехаў, у газеце не паведамлялася). Яны прыгразілі абрэзам, забралі амаль 60 злотых і ўцяклі ў лес.

*Працяг на ст. 6*



# Крымінал на Слонімшчыне 90 гадоў таму

*Працяг, пачатак на ст. 4-5*

Знайсці зламыснікаў па гарачых слядах не ўдалося.

У лістападзе ўначы на 6-м кіламетры шашы Слонім — Баранавічы абрабавалі Крысціну Бальцэраву. Яна расказала паліцыі, што ў Баранавічах пазнаёмілася з незнаёмым, які паабяцаў ёй пасаду служачай у Альбярціне. Бальцэрава паверыла і, як было дамоўлена, прыехала ў Альбярцін вечаровым цягнікам. Яе сустрэў той самы мужчына. Далей ён яе завёз ці завёў далей ад Альбярціна і, пагражаючы нажом, забраў грошы — 90 злотых.

Пацярпелая дала паліцыі прыкметы рабаўніка, якія дапамаглі яго затрымаць. Ім аказаўся Каміл Літвінчук з Беластока. Ён заявіў, што Крысціна Бальцэрава дала




яму толькі 40 злотых, але добраахвотна. За тое, што ён дапаможа дабрацца да савецкай мяжы. Відаць, паліцыя яму не паверыла.

Напады на баранавіцкай шашы працягваліся і ў 1932 годзе.

## Забойствы

Згадак пра забойствы на Слонімшчыне ў прэсе ў 1931 годзе было няшмат. У лютым ў Альбярціне паліцыя затрымала 20-гадовую Мар'ю Асуфровіч. Яе падазравалі ў забойстве дзіцяці. Па месцы жыхарства прайшоўператрус. Паліцэйскія знайшлі астанкі нованароджанага хлопчыка, пагрызенага пацукамі…

У лістападзе 1931-га прэса пісала пра *"таямнічае забойства 16-гадовага Лявона Маркевіча"* ў кіламетры ад Мялькнавічаў, па дарозе на Какошчыцы. Пад мастком знайшлі яго боты і шапку, сляды крыві. У 100 метрах ад таго месца ў полі было закапана цела забітага. Паліцыя спрабавала раскрыць гэтую справу. Расследаваннем кіраваў асабіста падкамісар Пухальскі, кіраўнік следчага аддзела ў Слоніме.

Экспертыза засведчыла, што хлопец загінуў ад некалькіх удараў па галаве. Апытанне жыхароў Мялькнавічаў паказала, што пра загінулага аднавяскоўцы адгукаюцца



*На такіх роварах у міжваенны час ездзілі польскія паліцыянты / wyborcza.pl*

непрыхільна. А яго бацька чамусьці папрасіў дазволу на пахаванне сына ў Слоніме, а не на вясковых могілках.

### Суіцыды

Сапраўднай катастрофай міжваеннага часу былі самазабойствы. Яны адбываліся з розных прычын — з-за матэрыяльнага становішча, з-за няшчаснага кахання, з-за хваробы.

У траўні банкаўскі работнік Юрый Тароўскі страляў сабе ў сэрца з рэвальвера. Яму ўдалося зрабіць два стрэлы. У безнадзейным стане Тароўскага прывезлі ў шпіталь.

25 кастрычніка ў Слоніме павесіўся 70-гадовы Абрам Ковенскі. Ён жыў у завулку Аптэчным, 9. Суіцыд учыніў у хляве каля дома. Паліцыя высветліла, што прычынай трагедыі сталі вялікія даўгі Ковенскага.

У тыя ж дні ў Альбярціне Мар'я Неўлачыц пасварылася з мужам Генрыкам і вырашыла звесці рахункі з жыццём — выпіла нейкую атруту. Медыцынскую дапамогу ёй аказалі своечасова, таму выратавалі.

У канцы лістапада ў Слоніме ўчыніў суіцыд 26-гадовы беспрацоўны — выпіў атруту. У безнадзейным стане яго прывезлі ў шпіталь.

9 снежня кінуўся пад хуткасны цягнік Варшава — Негарэлае на ўскраіне Слоніма магістр



**Zabójstwo o 30 groszy**

SLONIM (kor. wl.). Podczas zabawy tanecznej u Adama Grylaka w osadzie Krasnystaw, gm. dziewiętkowickiej na tle niezapłacenia za orkiestrę 30 gr. wynikła sprzeczka, która niebawem przeistoczyła się w bójkę na noże i bagnety, w rezultacie czego Grylak Franciszek ciężko zraniony zmarł po trzech godzinach. Grylak Stanisław, przeszyty 12 ranami kosą w agonji w szpitalu w Kosowie Poleskim, wreszcie Kruk Józef został ciężko i Gielak Józef — lżej ranny.

Policja prowadzi energiczne dochodzenie. Jak się dowiadujemy w ostatniej chwili policji udało się schwytać sprawców mordu.

права, выпускнік Віленскага універсітэта Стэфана Баторага Лазар Рабіновіч. Цягнік адрэзаў яму галаву, якая засталася ляжаць паміж рэйкамі, а тулава адляцела на бок насыпу… Самагубца пакінуў ліст, у якім засведчыў, што *"сыходзіць з гэтага свету, паколькі ён яму абрыд"*. Рабіновіч быў у цяжкім фінансавым становішчы.

### Бойкі

У красавіку ў асадзе Красныстаў Дзевяткавіцкай гміны (цяпер гэта дзесьці на памежжы Слонімскага і Івацэвіцкага раёнаў) падчас *"забавы танечнай"* у Адама Грыляка на глебе незаплачаных *"за аркестр"* 30 грошаў узнікла спрэчка. Яна неўзабаве перарасла ў бойку з выкарыстаннем нажоў.

Францішак Грыляк быў цяжка паранены і праз тры гадзіны памёр. Станіслаў Грыляк атрымаў 12 удараў касой, ён быў у цяжкім стане ў шпіталі ў Косаве.

У Юзафа Крока былі цяжкія раненні, у Юзафа Геляка — лёгкія. Паліцыя злавіла тых, хто нанёс раны перəлічаным і ўцёк.




У пачатку траўня на полі каля вёскі Сялявічы Міжэвіцкай гміны з-за зямлі ўзнікла спрэчка паміж мясцовымі жыхарамі Сцяпанам і Ганнай Сяркевічамі — з аднаго боку, і Францішкам і Зоф'яй Варашыла — з іншага. Неўзабаве пачалася бойка. У нейкі момант Францішак Варашыла ўдарыў каменем у патыліцу Ганну Сяркевіч. Яна памерла. Справу расследавала паліцыя.

28 кастрычніка ў вёсцы Савічы Шылавіцкай гміны *"падчас спрэчкі пра бульбу"* адбылася бойка. Падрабязнасці спрэчкі невядомыя. На месцы здарэння прысутнічала група людзей. На іх вачах Васіль Панасеня ўдарыў рыдлёўкай па галаве Парымону (Парамону) Грыпічу. Удар быў моцны. Акрываўлены Грыпіч упаў на зямлю. Яго завезлі ў шпіталь у Слонім. Там высветлілі, што пашкоджаны не толькі чэрап, але і галаўны мозг. Лекар сказаў сваякам, што стан безнадзейны. Васілём Панасенем і *"іншымі авантурнікамі"* зацікавілася паліцыя.

### Загадкавая смерць

У сакавіку на слонімскай вуліцы стала блага 70-гадоваму Самуэлю Далініку з Нагуевічаў. Прахожыя заўважылі гэта, завезлі яго ў шпіталь, дзе ён праз некалькі гадзін памёр. Прычына смерці была невядомая.

*Працяг на ст. 8*

# Крымінал на Слонімшчыне 90 гадоў таму

*Працяг, пачатак на ст. 4-7*

### Напад на дзяўчыну

У снежні двое мужчын напалі на 20-гадовую Эльжбету, якая жыла ў Семінарыйным завулку ў доме № 8 (у спісе Годэля Гольдберга ад 1934 года такога завулка няма). Яны сілай пасадзілі яе ў экіпаж і завезлі да сваіх знаёмых. Там зламыснікі прыгразілі дзяўчыне нажом і згвалцілі яе. Пасля адпусцілі. Паліцыя нібыта выйшла на след гвалтаўнікоў.

У тым годзе гэта быў адзіны такі выпадак, які трапіў у газеты. У 1932-м прэса ўжо пісала пра *"эпідэмію згвалтаванняў"* у Слоніме.

### Уцёкі закаханай пары

У пачатку года паліцыя занялася пошукам закаханай пары, якая знікла з нейкай вёскі на Слонімшчыне (у прэсе яе назву "забыліся" назваць). 23-гадовая Ружа Савіцкая ўцякла з 24-гадовым Канстанцінам Багданчуком. Ружа забрала 450 амерыканскіх долараў са схованкі бацькі. На той час гэта была вялізная сума.

Прычынай уцёкаў стала забарона бацькоў Савіцкай сустракацца з Багданчуком. Яны, відаць, былі каталікі, а ён — праваслаўны.



### Украінскі "тэрарыст" у Альбярціне

У пачатку лютага стала вядома, што ў Альбярціне ва ўніяцкім кляштары арыштавалі ўкраінца Міхала Пакітку, які далучыўся да езуітаў у лістападзе 1930 года. Польскія ўлады абвінавачвалі яго ў "сабатажы" і "забойстве", здзейсненым на яго радзіме, на Львоўшчыне. *"Вестка пра арышт Пакіткі зрабіла ў Слоніме моцнае ўражанне",* — пісала навагрудская газета.

### Маці пакінула паўтарагадовае дзіця

У пачатку вясны ў Слоніме быў зафіксаваны новы метад падкідавання дзяцей. Да сланімчанкі Мар'і Панькоўскай звярнулася незнаёмая жанчына з мэтай *"арэнды памяшкання"*. Калі яны дамовіліся, незнаёмая выйшла, як сама казала, *"па рэчы"*, пакінуўшы Панькоўскай паўтарагадовае дзіця, і ўжо не вярнулася.




*У міжваенны час у польскай паліцыі была свая газета*

### Хуліганы

У кастрычніку невядомыя пашкодзілі 15 байдарак, якія былі на прыстані ў Слоніме. Паліцыя шукала зламыснікаў.

Увечары 20 кастрычніка каля школы № 2 у Слоніме на вучняў-яўрэяў напала група юнакоў. Сярод апошніх былі Сабалеўскі і Пасікоўскі (былы вучань гэтай школы). Яны кідалі каменне і білі вучняў кулакамі. Пацярпелі некалькі чалавек, а сярод іх Лейба Немкін і Айзік Віннікаў. З кароткага паведамлення ў газеце немагчыма зразумець, ці гэта было звычайнае хуліганства, ці антысеміцкая акцыя.

У лістападзе на чыгунцы ў 3 км ад Азярніцы нехта паклаў кавалак жалеза на рэйкі. Цягніку гэта не перашкодзіла. Пазней жалеза прыбраў чыгуначнік. Было праведзена расследаванне і высветлілася, што зламыснікам аказаўся 13-гадовы пастух Аляксандр Дзябёла, які пасвіў кароваў побач з чыгункай.

### Здарэнне ў судзе

10 кастрычніка Гродзенскі акруговы суд на выязной сесіі разглядаў у Слоніме справу слонімца Віктара Цыніка. За нейкае злачынства яго асудзілі на 7 месяцаў турмы. Пасля абвяшчэння прысуду Цынік пачаў хуліганіць, *"абразіў суд"*. Яго загадалі вывесці з залі. Калі паліцыянт наблізіўся, мужчына выхапіў з кішэні нож

і заявіў, што жывым у турму не пойдзе. Давялося выклікаць падмацаванне паліцыі, якая Віктара Цыніка абяззброіла і завезла ў турму.

### Паліцыя

Працы ў паліцыі было шмат. І слонімцы маглі пахваліцца пэўнымі поспехамі. Не дзіўна, што ў спісе адзначаных паліцыянтаў Навагрудскага ваяводства, апублікаваным у студзені, быў і Уладзіслаў Цярка са следчага аддзела ў Слоніме. Ён атрымаў бронзавы крыж заслугі.

У траўні ў Слонім праездам у Варшаву прыехаў віцэ-ваявода Гадлеўскі. Спачатку ён наладзіў праверку пажарных. За 6 хвілін пасля сігналу агульнага збору на месца прыбыло толькі 26 чалавек з 100. На наступны дзень Гадлеўскі праверыў паліцыю, але яна ўжо была да праверкі гатовая.

### Гандаль

Асобая тэма — парушэнні ў гандлі. Нельга сказаць, што ўсе гандляры былі законапаслухмяныя. Розных парушэнняў хапала. Вышэй згадваўся выпадак сувязі з крыміналам. Відаць, квітнела хабарніцтва, бо навіны пра паспяховыя праверкі з'яўляліся рэдка. У пачатку траўня кантралёр Ян Развадоўскі знайшоў у Слоніме ў Ёселя Плотніка 40 скрынак схаванага сахарыну.

### Здарэнні

У тым годзе было шмат самых разнастайных здарэнняў. Паколькі нарыс прысвечаны крыміналу, то згадаем толькі некалькі з іх.

У студзені Яўгенія Воля, якая жыла па Доўгай, 47 (цяпер — Касманаўтаў), паслізнулася, калі пераходзіла Уланскую вуліцу (цяпер — Савецкая), і паламала



ногі.

У лютым пад Чамярамі Фёдар Блашко ішоў па чыгунцы і трапіў пад цягнік. Яму адрэзала правую руку і левую нагу. Блашко памёр у бальніцы ў Слоніме, не прыходзячы ў прытомнасць.

У красавіку ў Слоніме дзеці знайшлі гранату і прынеслі яе дахаты. Гуляліся з ёй на падворку Баляслава Семянюка. Пасля пачалі яе разбіраць цвіком. Граната ўзарвалася. Былі параненыя Казімір Вальчак, Браніслаў Семянюк, Рышард Мушальскі і Казімір Семянюк.

У траўні ў Слоніме судзілі групу баптыстаў з Нагуевічаў. У іх "доме малітвы" адбылася спрэчка — прыйшоў праваслаўны святар, які спрабаваў пераканаць баптыстаў пераходзіць у праваслаўе. Але прысутныя адмовіліся ды выказаліся наконт крыжа і г. д. Відаць, усё гэта было вядома са слоў праваслаўнага святара. Фёдар і Павел Салейкі *"за блюзнерства"* атрымалі па месяцы турмы, Яна і Кацярыну Далінец вызвалілі.

У пачатку кастрычніка ледзь не здарылася трагедыя на вуліцы Сянкевіча. Шафёр Міхневіч пакінуў каля кінатэатра "Мадэрн" грузавік, у кузаве якога было каля паўсотні дзяцей, а сам адлучыўся. Матор не выключыў, і ў нейкі момант аўтамабіль самастойна паехаў у бок Гандлёвай плошчы, сутыкнуўся са слупом. На шчасце, ніхто не пацярпеў.[2]

У лістападзе адбыўся пажар у кінатэатры "Мадэрн" па вуліцы Сянкевіча (цяпер — Першамайская, дом быў на ўчастку ад Савецкай вуліцы да Тэатральнай плошчы). Там адбылося кароткае замыканне, загарэлася сцяна. Пабачыўшы дым, наведнікі кінуліся наўцёкі. Прысутны ў кінатэатры начальнік пажарнай варты Барыс Пясецкі асабіста ліквідаваў узгаранне яшчэ да прыезду пажарных. Пасля здарэння было вырашана стварыць камісію, якая мусіла даследаваць, наколькі ў "Мадэрне" выкананы неабходныя меры пажарнай бяспекі.

"СК" ужо пісаў пра пажар у гэтым кінатэатры, які адбыўся 6 кастрычніка 1929 года.[3] Тады загарэлася кінаплёнка, узнікла паніка. На шчасце, таксама ніхто не пацярпеў.

У канцы 1931-га ў Слоніме змяніўся бурмістр. На месца Уладзіслава Ельскага прыйшоў ураджэнец Варшавы Казімір Міхальскі.

Падрыхтаваў
●Генадзь Гурскі

*[1] Крымінал і здарэнні на Слонімшчыне 90 гадоў таму [пра 1927 год] // Слонімскі край, 2017, № 7(17). Ліпень. С. 11-12; Крымінал на Слонімшчыне ў 1928 годзе // Слонімскі край, 2018, № 12(34). Снежань. С. 8-9.*

*[2] Незвычайны аўтамабільны выпадак // Слонімскі край, 2016, № 7. Жнівень. С. 12.*

*[3] Пажар у кінатэатры "Мадэрн" // Слонімскі край, 2017, № 1(11). Студзень. С. 11.*

# Пажар у кнігарні Любоўскага





ODEZWA

Do ludności m. Słonima

Straż Pożarna zwraca się do całego społeczeństwa z apelem o poparcie. Straż Pożarna jest na usługach wszystkich bez wyjątku mieszkańców miasta.

Straż Pożarna broni Wasz majątek przed największym wrogiem, który czyha na Was o każdej porze dnia i nocy.

Nadchodzi wiosna i lato kiedy sprawność Straży musi być bez zarzutu, jeśli ma spełniać zaszczytne zadanie, które ochotnie na siebie wzięła.

Ale stosunki finansowe Straży są w opłakanym stanie. Brak pieniędzy na potrzeby najważniejsze.

Zarząd urządza kwestę łańcuchową, która obejmować musi wszystkich mieszkańców miasta.

Niechże każdy, który wywołany, pamięta o swoim obowiązku.

Ochotnicza Straż Pożarna jest Waszym przyjacielem i żąda od Was poparcia.

312. ZARZĄD

У Слоніме на Параднай вуліцы (цяпер Першамайская вуліца, яе ніжэйшая частка) з 1905 года існавала кнігарня Залмана Любоўскага. Ён жыў у тым жа будынку.[1] Барыс Данілюк у сваіх успамінах згадвае, як у 1930-я гады рэгулярна наведваў кнігарню. Вуліца ўжо насіла імя паэта Адама Міцкевіча, але слонімцы па-ранейшаму яе называлі Парадная. Гаспадар кнігарні дазваляў Данілюку пераглядаць, складзеныя ў падвале *"расійскія кнігі дарэвалюцыйнага выдання"*.[2] Яны нейкім цудам захаваліся пасля здарэння 21 сакавіка 1931 года.

Небяспечны пажар па Міцкевіча, 3 пачаўся прыблізна ў 12:30. Гэта была субота, яўрэйскія крамы не працавалі. З гэтай прычыны ўзгаранне ў падвале не адразу заўважылі. Там захоўваліся *"матэрыялы пісьмовыя"* (сшыткі, папера), кнігі. Над складам знаходзілася кнігарня Любоўскага. Па суседстве была аптэка Лахазвянскага са *"складам аптэчным"* у падвале. Ён быў агульны, але перагароджаны.

Пажарным патэлефанавалі ў той час, калі ўжо падвал пад кнігарняй быў ахоплены агнём. І яны былі на месцы праз паўтары хвіліны на аўтамабілях з цыстэрнамі.

Амаль адначасова на месца прыбыў камендант мясцовай пажарнай варты падінспектар Рудольф Дальштэдт, якому паведамілі пра здарэнне па тэлефоне. Ён ацаніў сітуацыю — столь падвала была зроблена з дошак, і яны ўжо абгарэлі. Дальштэдт паставіў задачу не дапусціць агонь у кнігарню і ў аптэчны склад, бо там былі *"матэрыялы выбуховыя"*. Трэба было спусціцца ў падвал Любоўскага. Аднак нават самыя вопытныя пажарныя не змаглі выканаць загад — ад палаючай паперы, фарбы і клею там быў атрутны дым.

*"Камендант варты, не трацячы часу, сам спусціўся ў падвал праз акенца, і пасля 15 хвілін працы ў сутарэннях цалкам астудзіў столь над складам папяровых матэрыялаў і сцяну з боку аптэчнага складу, перашкодзіўшы такім чынам далейшаму распаўсюду пажару"*, — пісала газета "Навагрудскае жыццё".[3]

Прыклад каменданта станоўча паўплываў на ўсіх пажарных, яны нарэшце спусціліся ў падвал і канчаткова ліквідавалі ўзгаранне. Страты ацэньваліся як значныя.[4]

Неўзабаве пасля згаданага пажару ў прэсе была апублікавана адозва кіраўніцтва пажарнай варты Слоніма да мясцовых жыхароў з просьбай аб падтрымцы, паколькі яе фінансавы стан ацэньваўся як "жаласны".[5]

●СЁ

*[1] Слонімскі гандаль у сярэдзіне 1920-х гадоў // Слонімскі край, 2018, № 4(26). Красавік. С. 18.*

*[2] Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск, 2012. С. 174.*

*[3] Życie Nowogródzkie, 1931, № 74, 31 сакавіка.*

*[4] Życie Nowogródzkie, 1931, № 72, 28 сакавіка.*

*[5] Życie Nowogródzkie, 1931, № 75, 1 красавіка.*

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты



*Вулічны скрыпач каля гандлёвых радоў у Слоніме, 1916 г. / allegro.pl*

*Працяг, пачатак у № 5-8, 10-11, 2019 г., № 3, 4, 6 і 9, 2020 г.*

Слонім. Як да лепшага можа нямецкаяадміністрацыязмяніць становішча ў занятым горадзе, паказвае не толькі паспяховая арганізацыя гандлёвага жыцця ў Слоніме, але і аднаўленне Добраахвотнай пажарнай аховы. Мясцовая камендатура дазволіла ім правесці ў будынку старога рускага тэатра Літаратурна-драматычна-музычны вечар. Арганізатары свята ў выходных касцюмах, члены пажарнай каманды ў парадней уніформе, мясцовыя дзяўчыны ў паветраных вясновых строях. Вялікія знакі пажарнікаў, размешчаныя на сценах і столі, упрыгожаны галінкамі елак і падсвятляліся чырвонымі лямпамі — усё гэта стварала святочны настрой. На вечарыну прыйшлі таксама нямецкія афіцэры і салдаты. Вечар пачаўся пад акампанемент аркестра (мандаліны, гітары, скрыпкі і г. д.) і хору, якія выканалі бравурныя маршавыя песні і мелодыі. Дуэт двух скрыпак нeяк не адпавядаў агульнаму мажорнаму настрою, але справу выправіла наступная літаратурна-драматычная частка: аднаактавая п’еса А[нтона] Чэхава “Мядзведзь”. Шэсць гадоў таму гэтая п’еса ішла з поспехам і на нашых сцэнах у Германіі. Тады акцёры ў сваёй гульні шмат увагі надавалі, каб перадаць рускі каларыт. Тут жа гэтага наогул не было заўважна: і дэкарацыі, і касцюмы выглядалі на нямецкі манер, а сам спектакль ішоў на ідыш. У другой частцы вечара выступленні хору і музычныя нумары таксама парадавалі прысутных.

Ф[эст]

*Kriegszeitung von Baranowitschi (“Ваенная газета ў Баранавічах”), 1917, № 45, 6 чэрвеня.*

**Aus Baranowitschi und dem Besatzungsgebiet.**

**Slonim.** Das „Deutsche Theater, Ostfront,“ über dessen Gründung und Aufgaben die Kriegszeitung bereits in Nr. 57 vom 18. Juli näheres mitteilte, hat hier seine Tätigkeit mit der Aufführung des Schwankes „So'n Windhund“ von Kraatz und

Слонім. “Нямецкі тэатр — Усходні фронт”, аб заснаванні і задачах якога “Ваенная газета”

*Працяг на ст. 12*

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты

*Працяг, пачатак на ст. 11*

паведамляла…, пачаў сваю працу пастаноўкай фарсу Кратца і Гофмана “Бяжы, барзая…”. Прадстаўленні праходзяць у старым рускім Народным тэатры і наведваюцца таксама і мясцовым насельніцтвам. Па даручэнні генерала Войрша трупу сфармаваў прыдворны акцёр Э. Мэвес. Яму пашчасціла падабраць таленавітых выканаўцаў, якім без асаблівых цяжкасцяў атрымалася прысутных у зале прывесці ў радасны і захоплены настрой. Асабліва цудоўна паказалі сябе на сцэне Э. Мэвес (доктар Вінтэрніц), Паўль Брайтфельд з прыдворнага тэатра г. Ольдэнбурга (Фербер) і Франц Раўх з прыдворнага тэатра ў Штутгарце (Сцёгер). Сярод жаночых выканаўцаў бліскала Ганна Хелдбург з нямецкага тэатра Варшавы (Ліна Шварц). Другім спектаклем быў фарс “Гішпанская мушка”, лёгкі і забаўляльны, таксама адзначаны па заканчэнні велізарнымі, радаснымі авацыямі ўдзячных гледачоў.

Малодшы лейтэнант Фэст

*Kriegszeitung von Baranowitschi, 1917, № 59, 25 ліпеня.*

Слонім. Ужо працяглы час арганізуе разнастайныя выступленні аркестр гвардзейскага пяхотнага батальёна Дэневіц пад кіраўніцтвам малодшага фельдфебеля Кругера. Яны праходзяць ці з бравурнымі маршамі на чале нейкай армейскай калоны, ці яны суправаджаюць жалобнымі мелодыямі загінулага таварыша ў апошні шлях пад зялёныя вясновыя бярозы, ці зноў арганізуюць рэгулярныя перасоўныя канцэрты... Часта сустракаем мы іх у лазарэтах, дзе яны выконваюць забаўляльную музыку. А нядаўна яны арганізавалі выдатны скрыпічны канцэрт класічнай музыкі. Канцэрт быў у будынку старога рускага тэатра і праходзіў без прысутнасці мясцовага насельніцтва. Пачаўся канцэрт з уверцюры Мендэльсона, затым прагучаў Шуберт, потым Бетховена уверцюра з “Эгмант” і г. д.

Здольнымі салістамі зарэкамендавалі сябе Пітак (кларнет) і Кухарцэўскі (скрыпка). Па заканчэнні кожнага музычнага нумара гучалі захопленыя апладысменты. Для грамадзянскага насельніцтва Слоніма музыканты арганізавалі канцэрт паўторна.

Фэст

*Kriegszeitung von Baranowitschi, 1917, № 44, 2 чэрвеня.*

Пераклаў
●Ігар Падгарадзецкі


Promenaden-Konzert in Slonim

# Рэвалюцыйны год

## *Слонімшчына на старонках “Гродненскіх губернскіх вѣдомостей” у 1905-м*

*Заканчэнне, пачатак у № 10-12(56-58) за 2020 г., № 1-3(60-62) за 2021 г.*

19 жніўня 1905 года *“Гродненскія губернскія вѣдомости”* (афіцыйная частка) апублікавалі аб’яву пра адкрыццё ў цэнтры Слоніма ў доме І. Зелікоўскага новай гасцініцы “Вікторыя”. Гэтая ж рэклама з’яўлялася ў наступных двух нумарах газеты. Былыя Парадная і Гандлёвая вуліцы цяпер утвараюць Першамайскую вуліцу.

У “Спісе асобаў, якія маюць права ўдзелу… ў выбарах гласных Слонімскай гарадской думы” ад 1905 года згадваюцца Іцка і Райкля Зелікоўскія.[1] Нехта І. Зелікоўскі ў канцы XIX стагоддзя быў у Слоніме агентам страхавога таварыства “Саламандра”. Калі ў ліпені 2019-га падчас рамонту даху будынка былой ратушы, а цяпер раённай бібліятэкі імя Якуба Коласа на гарышчы знайшлі абрыўкі старых дакументаў, некаторыя з іх датычылі якраз Зелікоўскага.[2]

У лютым 1905 года ў неафіцыйнай частцы губернскага выдання было такое паведамленне: *“Мы чулі, што ў хуткім будучым прыбывае з г. Кастрамы 240 пях[отны] Краснянскі полк у г. Слонім на пастаянныя кватэры замест выбылага з гэтага горада 118 пях. Шуйскага палка”.*[3] 240-ы пяхотны Краснінскі полк вядзе гісторыю са Смаленшчыны. Ён быў створаны ў снежні 1904 года на аснове аднайменнага рэзервовага батальёна. У студзені 1906-га рэзервовым стаў лічыцца і полк. А ў ліпені таго года ён стаў батальёнам і пазней быў уключаны ў іншы



Гор. Слонимъ.

Съ 1 августа с. г. въ моемъ домѣ, въ центрѣ города (уг. Парадной и Торговой ул.), открывается новая гостиница „Викторія“. При гостиницѣ телефонъ, ванная комната и всѣ необходимыя удобства. Номеръ отъ 40 коп. до 1 руб. 50 коп. въ сутки. *И. Зеликовскій.*

1999—1—3




*Звязда*



ОБЪЯВЛЕНІЕ.

При Жировицкомъ монастырѣ, Гродненской губерніи, открывается **ПРІЮТЪ** для дѣтей воиновъ, убитыхъ на войнѣ Россіи съ Японіей, а за неимѣніемъ таковыхъ—дѣтей воиновъ раненыхъ, плѣненныхъ и защитниковъ Портъ-Артура.

Дѣти—мальчики принимаются здоровые отъ 7-ми до 9-ти лѣтъ по возрасту. Прошенія подаются на имя настоятеля монастыря епископа Мисаила, съ приложеніемъ удостовѣренія отъ своего волостнаго правленія и метрической выписи о рожденіи и крещеніи просителя—отъ мѣстнаго священника.

Дѣти будутъ содержаться **БЕЗПЛАТНО** на средства монастырскія и обучаться въ церковно-приходской школѣ при монастырѣ.

# Рэвалюцыйны год

## *Слонімшчына на старонках “Гродненскіх губернскіх вѣдомостей” у 1905-м*

*Працяг, пачатак на ст. 13*

полк.

У 1905 годзе 240-ы Краснінскі пяхотны полк змясціў дзве аб’явы ў губернскай газеце (у афіцыйнай частцы): 5 красавіка пра таргі на пастаўкі харчавання, а 29 лістапада асобным аркушом-дадаткам пра таргі на чыстку прыбіральняў, дымаходаў у казармах.



ПРИБАВЛЕНІЕ

къ № 88 „Гродн. Губ. Вѣд.“, 29 ноября 1905 г.

ОБЪЯВЛЕНІЕ.

240-й пѣхотный Краснинскій полкъ, квартирующій въ городѣ Слонимѣ, приглашаетъ лицъ, желающихъ взять на себя подрядъ по очисткѣ отхожихъ мѣстъ, выгребныхъ ямъ и дымовыхъ трубъ въ зданіяхъ казармъ, занимаемыхъ полкомъ, на срокъ съ 1 января 1906 года по 1-е января 1907 года на сумму до трехъ тысячъ рублей, пожаловать на торги или прислать установленныя заявленія.

Торги назначаются въ канцеляріи полка 12 декабря въ 11 часовъ утра. Съ предварительными условіями можно ознакомляться ежедневно, кромѣ праздниковъ отъ 11 до 2½ час. дня.

Гродн. Губ. Тип

15 лістапада 1905-га *“Гродненскія губернскія вѣдомости”* (афіцыйная частка) апублікавалі аб’яву пра адкрыццё пры Жыровіцкім праваслаўным манастыры прытулку для дзяцей вайскоўцаў, якія загінулі на вайне Расіі з Японіяй. Іх збіраліся ўтрымліваць за манастырскія сродкі і вучыць у царкоўна-прыходскай школе. На працягу лістапада гэтая аб’ява з’яўлялася ў газеце яшчэ двойчы.

У верасні ў неафіцыйнай частцы быў змешчаны некралог пра смерць выпускніка Слонімскай павятовай вучэльні, сына настаўніка Парэцкай народнай вучэльні Канстанціна Міхайлавіча Рамановіча.[4] Памёр ён на 20-м годзе жыцця 24 студзеня 1905-га ў Парэччы ў сваіх бацькоў ад “лёгачных сухотаў”. Рамановіч быў настаўнікам Бабыніцкай народнай вучэльні, а да таго, у 1901-1904 гадах працаваў у народнай вучэльні ў Дабромыслі (цяпер гэта Івацэвіцкі раён). Інспектар Паўлінскі піша пра самаахвярнасць педагога, які не шкадаваў сябе. Палову заробку ён аддаваў бацькам, каб тыя маглі вучыць яго двух сясцёр і брата.

Канстанцін Рамановіч казаў сваякам ці знаёмым: *“Я нарадзіўся ў вёсцы, рос у вёсцы, люблю вёску і хачу папрацаваць для вёскі. У вёсцы ёсць нямала прасторы для дзейнасці вясковага настаўніка”.*

На яго пахаванне сабралося шмат людзей. Былі два настаўнікі і навучэнцы чатырох мясцовых школ, у тым ліку двух царкоўна-прыходскіх, а таксама хор. Прамаўляў настаўнік Пятралевіцкай народнай вучэльні Барташ.

*[1] Рэвалюцыйны год // Слонімскі край, 2020, №12(58). Лістапад. С. 6.*

*[2] Знаходка ў былой ратушы // Слонімскі край, 2019, № 8. Жнівень. С. 14. Больш падрабязна пра знаходку: Шаршаневіч С. Маленькі абрывак дарэвалюцыйнага дакумента распавёў пра злачынствы канца 19 стагоддзя // Звязда, 2019, 26 жніўня; https://zviazda.by/be/news/20190824/1566632329-malenki-abryvak-darevalyucyynaga-dakumenta-raspavyou-pra-zlachynstva-kanca*

*[3] Гродненскія губернскія вѣдомости. Часть неоффиціальная, 1905, № 8, 18 лютага. С. 4.*

*[4] Гродненскія губернскія вѣдомости. Часть неоффиціальная, 1905, № 36, 16 верасня. С. 10.*

# Пра першага і апошняга слонімскага губернатара

У “СК” была публікацыя пра Слонімскае намесніцтва (губерню), якое існавала ў 1795-1797 гадах, калі ВКЛ трапіла ў склад Расійскай імперыі.[1] Першым і апошнім генерал-губернатарам быў князь Мікалай Рэпнін. Паколькі ён кіраваў адразу чатырма губернямі, то ў Слонім прызначылі губернатара, які яму падначальваўся. Першым і апошнім слонімскім губернатарам у снежні 1795-га стаў генерал-маёр Іван Іванавіч Навіцкі. Пра яго вядома вельмі мала. У “Спісе генеральскіх чыноў расійскай імператарскай арміі і флоту” замест гадоў яго нараджэння і смерці стаяць пытальнікі. Паведамляецца варыянт яго прозвішча — *“Новицкой”*. Брыгадзірам ён стаў з 5 лютага 1790 года, генерал-маёрам — з 2 верасня 1793-га.[2] І ўсё.






Кароткую біяграфічную даведку пра Навіцкага ўдалося знайсці ў біяграфічным даведніку, які выйшаў у Калінінградзе.[3] З яе вынікае, што ён — ураджэнец Украіны, дзе нарадзіўся верагодна ў пачатку 1740-х гадоў. З красавіка 1763 года Іван Навіцкі вучыўся ў Кёнігсбергскім універсітэце ў Прусіі. На службу ў рускую армію паступіў у 1766 годзе. У даведцы адзначаецца, што ў 1795 годзе генерал *“назначен правителем в Слонимскую губернию”*. Пра яго далейшы лёс ні слова. Верагодна, пасля ліквідацыі Слонімскага намесніцтва (губерні) Іван Навіцкі выйшаў у адстаўку і вярнуўся ў свой маёнтак. Таму ён больш нідзе і не “засвяціўся”.

●СЁ

*[1] Ёрш С. Расійская імператрыца Кацярына ІІ і палац Агінскага ў Слоніме // Слонімскі край, 2017, № 8(18). Жнівень. С. 1, 3.*

*[2] http://www.rusgeneral.ru/general_n2.html*

*[3] Костяшов Ю., Кретинин Г. Россияне в Восточной Пруссии: Часть 1. Биографический словарь. — Калининград, 2001. С. 152.*

# “Літву змясціў паміж Маладзечнам і Слонімам”

29 красавіка споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння беларускага гісторыка Міколы Ермаловіча (1921 — 2000). У канцы 1980-х — у пачатку 1990-х ён выдаў кнігі “Па слядах аднаго міфа” і “Старажытная Беларусь”, у якіх даводзіць, што Вялікае Княства Літоўскае — гэта частка гісторыі Беларусі, што гэта не чужая дзяржава.

Ермаловіч расказваў: *“Гэтую* [летапісную] *Літву арыенціровачна змясціў на прасторы паміж Маладзечнам і Слонімам — з поўначы на поўдзень, і прыблізна паміж Заслаўем і крыху не даходзячы да Навагрудка — з усходу на захад. Вось тут была старажытная Літва”.*

Многія навукоўцы з гэтай яго канцэпцыяй не згодныя, звяртаюць увагу на памылкі, на абмежаванасць крыніц, якія ён выкарыстаў. Тым не менш, значэнне прац Міколы Ермаловіча ў абуджэнні гістарычнай памяці беларусаў вялізная. Яго кніга “Па слядах аднаго міфа” ў савецкія часы распаўсюджвалася ў самвыдаце. Яна абуджала ў тых жа прафесійных гісторыкаў цікавасць да ВКЛ, з часам пачалі з’яўляцца новыя працы, з новым поглядам на старажытную Беларусь.

*“Гістарычная памяць — гэта адна з найвялікшых сіл народа,* — гаварыў у 1990-я Ермаловіч. *— Народ, які не ведае свайго мінулага, не варты і свайго будучага. Ён не можа мець гэтае будучае. Таму пытанне выхавання гістарычнай памяці асабліва ў нас, ва ўмовах Беларусі, дзе гэта гістарычная памяць была асабліва забіта, набывае першаступеннае значэнне”.*



*Мікола Ермаловіч / zviazda.by*






# Алег Лойка



1 траўня адзначаліся 90-я ўгодкі з дня нараджэння нашага земляка, паэта і навукоўца Алега Лойкі (1931 — 2008). Яго творчы набытак вялізны. Толькі зборнікаў паэзіі выйшла некалькі дзясяткаў. А яшчэ была проза, літаратуразнаўчыя працы. Лойка — доктар філалагічных навук, прафесар, сябра-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі.

Радок з верша паэта *"І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім"* з 2017 года прысутнічае над лагатыпам нашага выдання.

Сорак першы год

Я памятаю: грозны сорак першы…
На момант заціхае бою гром…
І маці хлеб пячэ байцам паспешна
І поіць іх ля весніц малаком.

Яны ж пілі,
рукою пачарнелай
Ледзь абціраючы з засмяглых вуснаў пыл,
На ўсход ішлі туды, дзе грукацела
І дымам засцілала небасхіл…

Няхай сягоння мне падзе на долю
Агонь, жалеза, посвісты свінца —
Стрываю ўсё да пераможнага канца,
Бо не забыцца мне ў жыцці ніколі
Пра маці з хлебам у руках мазольных
І постаць непакорную байца!..

Алег Лойка

*Полымя, 1958, № 2. Люты. С. 112.*

ХРОНІКА

## Копіі актавай кнігі Слонімскага земскага суда

Як паведаміў сайт Нацыянальнага гістарычнага архіва Рэспублікі Беларусь, у межах працы па выяўленні дакументаў па гісторыі Беларусі ў архівах, бібліятэках і музеях замежжа, ім былі атрыманы лічбавыя копіі актавай кнігі Слонімскага земскага суда за 1555-1565 гады са збораў Дзяржаўнага архіва Яраслаўскай вобласці (Расія). Змест дадзенай кнігі добра вядомы даследчыкам, дзякуючы публікацыі яе поўнага тэксту ў 22-м томе серыі *"Акты Виленской археографической комиссии"* (Вільня, 1895). У другой палове XIX стагоддзя кніга захоўвалася ў Віленскім цэнтральным архіве старажытных актаў, адкуль у пачатку Першай сусветнай вайны яе вывезлі ў г. Яраслаўль.

У хуткім часе лічбавыя копіі кнігі будуць даступны даследчыкам у чытальнай зале архіва.

●Сяргей Чыгрын



*На здымку: Першая старонка актавай кнігі Слонімскага земскага суда за 1555 год / niab.by*




*У слонімскім музеі адбылася вечарына, прысвечаная Алегу Лойку. Прамаўлялі Алена Сухарукава і Сяргей Чыгрын*

# “Лецішча караля” ў Слоніме


Станіслаў Аўгуст Панятоўскі / pl.wikipedia.org

У сакавіку 1929-га ў газеце “Навагрудскае жыццё” з’явілася зацемка “Лёс лецішча караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага”.* Пра тое, што ў Слоніме каля Шчары недалёка ад электрастанцыі *“стаіць знішчаны і замшэлы мур”*, які ў другой палове XVIII стагоддзя быў лецішчам апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1732 — 1798). На той час будынак быў уласнасцю слонімскага магістрата.

У публікацыі адзначалася, што мясцовыя жыхары ў сваёй большасці не разумеюць гістарычную каштоўнасць будынка. Аўтар звяртаўся да аддзела Польскага краязнаўчага таварыства ў Слоніме, каб было праведзена даследаванне ў гэтай справе і зроблены неабходныя захады.

Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі сапраўды быў у Слоніме ў 1784 годзе, але звестак пра тое, што ён меў тут “лецішча”, няма. Відаць, краязнаўцы разабраліся ў справе будынка (ці руінаў) на Замосці, і больш публікацый не было (ці пакуль не ўдалося іх выявіць). У той час многія слонімцы верылі, што ў Слоніме ў 1812-м спыняўся імператар Напалеон, называліся два дамы на цяперашняй вуліцы Пушкіна, у якіх ён мог начаваць.**

●СЁ

**Życie Nowogródzkie, 1929, № 77, 19 сакавіка.*

***Halski M. Słonimszczyzna (Monograficzny szkic Słonimszczyzny) // Nasz lot: jednodniówka... — Słonim, 1933, 4 лютага. С. 13; Ёрш С. Напалеон Банапарт і Слонім // Слонімскі край, 2019, № 6(40). Чэрвень. С. 5.*


pamiecdlapokolen.pl

# “Слонім можа называцца сапраўдным горадам”

У кнізе рускага публіцыста Міхаіла Дэ-Пуле (1822 — 1885), прысвечанай апошняму каралю Рэчы Паспалітай Станіславу Аўгусту Панятоўскаму,[1] ёсць згадка пра Слонім. Яна не ўтрымлівае нейкіх сенсацыйных ці невядомых фактаў, але, тым не менш, цікавая. Дэ-Пуле, які правёў большую частку жыцця ў Расіі, тэарэтычна мог пабываць у нашым горадзе праездам і мець нейкія ўласныя ўражанні пра яго. У 1860-я ён жыў у Вільні, некалькі гадоў рэдагаваў газету *“Виленский вѣстникъ”.*

З іншага боку ў публіцыста, рэдактара было нямала інфармацыі пра горад ад карэспандэнтаў. Менавіта згаданае віленскае выданне восенню 1860-га апублікавала ліст са Слоніма, з якога мы даведаліся пра знахара Тэадора Ярмаловіча.[2]

Звесткі пра наш горад аўтар падаў, як можна меркаваць, на 1790-я гады. Тады сапраўды кляштар бенедзіктынак на Скрабаўскай (Жыровіцкай) вуліцы быў драўляны, але ў пачатку XIX ст. на яго месцы пабудавалі каменны. Драўляная ўніяцкая царква згарэла падчас вялікага пажару лета 1848 года.



СТАНИСЛАВЪ-АВГУСТЪ ПОНЯТОВСКІЙ

ВЪ ГРОДНѢ

И

ЛИТВА ВЪ 1794—1797 ГОДАХЪ.

Сочиненіе Михаила ДеПуле.

Изданіе второе.

С.-ПЕТЕРБУРГЪ.

1871.



Міхаіл Дэ-Пуле

Горад Слонім перайменаваны з мястэчка, які належаў старасту таго ж імя, што было ў валоданні гетмана графа Агінскага, які для Слоніма, у пэўнай ступені, быў Тызенгаўзам;[3] ён, між іншым, пабудаваў канал, які злучае р. Шчару з дняпроўскай сістэмай вод. У горадзе знаходзіліся: 5 каменных рымска-каталіцкіх манастыроў, каменная фара (гарадскі сабор), драўляны жаночы каталіцкі манастыр, драўляная ўніяцкая царква, каменных дамоў 6, драўляных — 666. З каменных дамоў 4 належалі быламу гетману Агінскаму: яны былі ўзятыя ў казну [рускімі ўладамі]. З гэтых дамоў быў выдатны палац графа, вялізны каменны аднапавярховы будынак з двума, па баках, драўлянымі флігелямі…, які меў 116 пакояў.[4]

Пры гэтым доме знаходзіўся каменны тэатр, аранжэрэя і невялікі сад. Дзякуючы свайму размяшчэнню на р. Шчары, якая ўпадае ў Нёман, Слонім вёў значны гандаль хлебам[5] і лесам, які знаходзіўся ў руках яўрэяў.

Жыхары Слоніма-хрысціяне займаліся земляробствам, хаця гарадской зямлі было вельмі мала, ды і тая ляжала ў адзін бок [ад горада], з астатніх жа бакоў аблягалі яго ворныя і сенакосныя землі гетмана Агінскага, якія падыходзілі да самай гарадской рысы. Як заўважалі тагачасныя нашы статысткі, *“з-за такіх зручнасцяў у гандлі, Слонім можа называцца сапраўдным горадам”.* З гэтых, вядома, прычын ён і атрымаў [часова] статус губернскага горада”.[6]

*[1] Де-Пуле М. Станиславъ-Августъ Понятовскій в Гроднѣ и Литва въ 1794—1797 годахъ. Изданіе второе. — С.-Петербургъ, 1871.*

*[2] Забыты слонімскі знахар Тэадор Ярмаловіч // Слонімскі край, 2021, № 1(60). Студзень. С. 1, 3-4.*

*[3]Антоні Тызенгаўз (1733 — 1785) — гродзенскі стараста, адміністратар каралеўскіх эканомій у Вялікім княстве Літоўскім, прыхільнік эканамічных рэформаў.*

*[4] Даследчык Анджэй Цеханавецкі сцвярджае, што лічба перабольшаная. Насамрэч налічвалася 46 пакояў. Гл. Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго “сядзіба музаў” у Слоніме. — Мінск, 2006. С. 79.*

*[5] Збожжам.*

*[6] Станиславъ-Августъ Понятовскій в Гроднѣ и Литва въ 1794—1797 годахъ. С. 109.*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Ваенны аркестр, 1926 год



Гэты здымак знайшоўся ў зборах Мемарыяльнага музея Халакоста ў ЗША. На ім — ваенны аркестр у Слоніме 15 снежня 1926 года. У апісанні не пазначана, да якога палка адносяцца вайскоўцы — да 79-га ці 80-га.

У апошнім шэрагу справа ад дзвярэй стаіць Шмуэль Сабсай. Таксама на фота прысутнічае Берал Кастравіцкі.

ХРОНІКА

# На Слонімшчыне знайшлі астанкі чырвонаармейцаў

У красавіку каля вёскі Клепачы Слонімскага раёна былі знойдзены астанкі трох чалавек, як мяркуецца, чырвонаармейцаў. Верагодна, яны загінулі летам 1941 года, у першыя дні вайны. Як паведамляе БЕЛТА, пошукавікам пра няўлічаныя пахаванні распавялі мясцовыя жыхары. Сярод знаходак былі два медальёны. Адзін з іх аказаўся пустым, іншы адправілі на экспертызу.

На месцы працавалі байцы 52-га асобнага спецыялізаванага пошукавага батальёна Мінабароны, а таксама пошукавая група “Бацькаўшчына”. Астанкі загінулых урачыста перапахаваюць на вайсковым пахаванні ў Азярніцкім сельсавеце.

●Генадзь Гурскі

“Слонімскі край” — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com